Przesyłka opłacona ryczałtem

№ 15 | Серада, 26-га Траўня 1926 г. м. Вільня | Год I

# БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

Выходзіць раз у тыдзень | Цана нумару 20 грош.

**Нацыянальнае адраджэньне.—Тэрыторыяльная і культурна-нацыянальная аутаномія.—Зямля сялянам на падставе уласнасьці.—Шырокі дэмократызм.—Барацьба з комунізмам.—Нацыянальная царква.—Краевая згода.—Далучэньне Усходняй Беларусі да Заходняй.**

Цадпісная цана на 1 месяц 1 зл.
" " 3 " 2 зл. 50 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka 1 Hotel „Sokołowski“ pokój Nr 23. Рэдакцыя адчынена ад 12 — 2 гадз. штодня апрача сьвятаў.

Цана абвестак: перад тэкстам — 20 гр.
" сярод тэксту — 25 гр.
" на апош. стар. — 10 гр.
За радок нонпарэля.

# МЫ ТРЭБУЕМ!

У той мамэнт, калі Польская Дэмакратыя у сьмяротнай барацьбе з рэакцыяй аб'едналася ўся, бяз розьніцы партыяў і праліла кроў за ідэалы дэмакратыі на вуліцах Варшавы; у той мамэнт, калі надыходзіць рашучая хвіля апошняга змаганьня — калі надыходзіць мамэнт выбараў новага прэзыдэнта Рэспублікі; у той нарэшце мамэнт, калі ўсе парлямэнтарскія меншасьці ідуць разам з польскай дэмакратыяй, каб аддаць свой голас **за адзінага кандыдата лявіцы Маршалка Пілсудскага**—беларускія паслы хістаюцца і ня ідуць разам з усей лявіцай. Дык мы прыпамінаем беларускім паслам, што дзякуючы іх 4—гадоваму палітыканству і няздольнасьці, беларускі народ сядзіць сяньня ля разьбітага карыта... Дык у гэты апошні мамэнт аджыўшага і гнілога Сойму, мы заяўляем, як беларускія грамадзяне, што беларускія паслы **не маюць права разьбіваць галасоў парлямэнцкай Дэмакратыі**, што можа даць перавагу рэакцыйным партыям і прывясьці беларускі народ да аканчальнай згубы і нацыянальнай сьмерці. Дзеля гэтага **мы трэбуем, каб беларускія паслы аддалі свае галасы за Язэпа Пілсудскага!**

*Часовая Беларуская Рада.*
*Т-ва „Прасьвета“.*

Надыходзіць часіна пераломы. 31 траўня вызначаны ў Варшаве агульны сход Сойма і Сэната дзеля выбараў новага Прэзыдэнта.

Усе польскія левыя партыі аднагалосна выказаліся за падтрыманьне кандыдатуры Маршалка Пілсудскага. Нацыянальныя меншасьці далучаюць свае галасы да польскае дэмакратыі. І толькі Беларускі Пасольскі Клюб дагэтуль яшчэ „ня вырашыў“ свайго становішча ў гэтай так важнай для ўсей Дзяржавы і нашай старонкі справе.

Апрача Маршалка Пілсудскага, другога кандыдата польская лявіца не выстаўляе. Значыцца правал кандыдатуры Пілсудскага даў-бы толькі перамогу кандыдату нацыяналістычнай польскай правіцы.

Дык здавалося-б, што ня можа быць нават і гутаркі аб тым, за каго галасаваць. Пілсудскі і толькі Пілсудскі можа даць нам магчымасьці дзеля нашага нацыянальнага і культурнага жыцьця, бо Ен, як сын нашае Богам і людзьмі забытай старонкі, лепш за іншых разумее ўсе тыя несправядлівасьці, якім ня гледзячы на Конституцыю, мы падлягалі.

Ясна гэта кожнаму, але нажаль неясна нашым паслам. У гэткі адказны для нас мамэнт яны не знайшлі нічога лепшага, як яшчэ раз задакумэнтаваць сваё поўнае банкроцтва. Можна напэўна сказаць, што як раней „опозыцыя“ нашых паслоў ня мела ніякая вагі ў палітычным жыцьці Польшчы, гэтаксама ня будзе яна мець значэньня і цяпер.

Падзеі пойдуць міма іх.

Беларускі народ, разумеючы ўласны нацыянальны інтарэс, бязумоўна падтрымае кандыдатуру Маршалка Пілсудскага.

# НА ПЕРАЛОМЕ.

Пасьля крывавых падзеяў у Варшаве вочы ўсяе польскае Дэмакратыі зьвярнуліся на таго, хто быў пасрэдным віноўнікам гэтых падзеяў.

Усе чакалі, што і далей падзеі будуць разьвівацца c r e s c e n d o, што Маршалак возьме ў свае рукі дыктатуру, распусьціць Сойм і Сэнат, вызначыць новыя выбары...

І вось, пасьля таго, як гэтыя думкі не зьдзейсьніліся, як маршалак Сойму Ратай узяў уладу пасьля адрокшагася б. прэзыдэнта Вайцэхоўскага і быў створаны парлямэнтарны ўрад праф. Бартэля, здавалася ўжо, што падзеі не разьвінуліся да натуральнага канца, што ў палове іх бурнага шляху зрабілася нейкая запора...

І кожны пытаўся:

У імя чаго вялася трохдзённая хатняя вайна?

„Нельга, каб у дзяржаве было *за шмат* несправядлівасьці“...

Гэтыя словы сказаў Пілсудскі прадстаўнікам прэсы на другі дзень баёў...

Ад Заходу да Усходу, ад верху да нізу, ад Шлёнска да „крэсаў“ Усходніх, ад ваяводы да паліцэйскага пшадоўніка, было шмат несправядлівасьці, беззаконьня, было надта шмат, —о! мы, жыхары „крэсаў“, мы—другарадныя грамадзяне Рэчыпаспалітай —гэта ляпей адчуваем за іншых. Нарэшце прыйшоў мамэнт, калі... ў дзяржаве несправядлівасьці зрабілася ўжо *за шмат*...

І вось, у абароне законнасьці выступіў проці „законнай“ улады Чалавек, які ўсё сваё жыцьцё, ў імя законных правоў чалавека, змагаўся з „законнымі“ ўладамі. Чалавек, які праз шмат гадоў хаваўся ад „законнай“ улады ў „падпольле“, уцякаў з вастрогаў і сыбірскай катаргі, у імя законных правоў свайго народа ў 1905 годзе тварыў... ...„дывэрсыйныя банды“...

Ен перамог...

Ен, які ў змаганьні з варожай уладай сьмела ішоў па шляху незаконнасьці, цяпер, ува ўласнай дзяржаве, захацеў увайсьці на шлях законнасьці і братняе згоды.

„Хай гэтая гарачая кроў — піша ён у сваей адозве да арміі — гэтая найдаражэйшая ў Польшчы кроў жаўнера, пад нашымі нагамі станецца новым пасевам брацтва“...

# ПАЛІТЫЧНЫ АГЛЯД.

Агульная забастоўка ў Англіі ліквідавана. Перамог урад і капіталісты. Рабочыя ня толькі не дайшлі да сваіх мэтаў, але нават страцілі шмат таго, што мелі раней. У некаторых галінах прамысловасьці, як напр. на чыгунцы, прадпрыемцы дамагаюцца ад рабочых, каб яны заплацілі шкоды, якія зрабіла забастоўка. Апрача таго прадпрыемцы ня хочуць браць назад на службу тых, хто ў часе забастоўкі рабіў гвалты. Наагул ўсе прадпрыемцы хочуць паменшыць плату і павялічыць рабочы дзень. Усе рабочыя падтрымаўшыя сваей забастоўкай вуглякопаў, прызналі сваё выступленьне бязпраўным і абецаліся ў будучыне не рабіць агульных забастовак. Справа ў тым, што на падставе істнуючых калектыўных дагавораў між прадпрыемцамі і рабочымі, апошнія ня мелі права забаставаць, не папярэдзіўшы аб гэтым прадпрыемцаў за 2 тыдні. З прычыны гэтага бязпраўнага апавяшчэньня рабочымі агульнай забастоўкі ўрад Балдуіна пагразіў, што калі яны ня спыняць зараз-жа забастоўкі, дык урад канфіскуе ўсе грошы прафэсыянальных саюзаў, лікам шмат мільёнаў фунтаў штэрлінгаў, якія зложаны ў розных ашчадных касах і банках, а прадпрыемцы пагразілі, што апавесьцяць лёкаўт, г. зн. звольняць усіх без ніякага адшкадаваньня. Але рабочыя і бяз гэтых рашучых пагрозаў ужо бачылі, што прайгралі забастоўку і пайшлі на ўсе кампрамісы. Толькі левыя групы і бальшавікі паднялі страшэнны шум на ўсю Эўропу, абвінавачваючы правых у маладушшы, здрадзе работніцкай справы і г. п.

Гэтак аскандаліліся найбалей арганізаваныя на сьвеце ангельскія рабочыя ў змаганьні з ангельскім капіталам і грамадзянствам.

Няўдача ангельскіх рабочых зьяўляецца адначасна няўдачай ўсяго эўрапэйскага пралетарыята, а асабліва бальшавікоў, якія пакладалі аграмадныя падзеі на гэту барацьбу. З гэтай барацьбы ангельскі консэрватыўны ўрад Балдуіна і ангельскі капітал выйшлі яшчэ больш магутнымі і цяпер могуць распачаць зноў змаганьне з бальшавікамі, якое часова спынілася дзякуючы забастоўцы.

У Жэнэве 10 траўня распачалося паседжаньне камісіі, якая мае на мэце нанова апрацаваць статут Лігі Народаў. У склад камісіі ўваходзяць прадстаўнікі дзесяцёх дзяржаваў, у тым ліку Нямеччыны і Польшчы. Згодна з прапазыцыяй ангельскага дэлегата Робэрта Сэсіля, камісія прыняла два аснаўных пункты, якія адчыняюць свабодны шлях Нямеччыне ў Лігу Народаў. Перш-на-перш большасьць галасоў, проці аднэй Бразыліі, прызнала, што апрача Нямеччыны ніхто балей ня будзе прыняты ў Раду Лігі на заўсёднае месца. Па—другое устаноўлены 3-х гадовы срок мандата для незаўсёдных сябраў, пры гэтым новыя сябры павінны зараз-жа браць свой мандат. На падставе істнуючага статута часовы сябра Рады пасьля выбару яго ў лік новых сябраў мог яшчэ спаўняць свае абавязкі ў працягу шасьцёх месяцаў. Гэта было скіравана выняткова проці Бразыліі, якая сваім v e t o перашкодзіла Нямеччыне ўвайсьці ў Лігу Народаў. Калі-б яна й далей думала ўпірацца, дык на верасьнявых выбарах можа быць правалена і зараз-жа павінна будзе ўступіць свой мандат новаму сябру. Гэткім чынам

Нямеччыне ўжо абясьпечана заўсёднае месца ў Радзе Лігі, у той час як Польшча страціла на гэта ўсялякія шансы.

У той-жа самы час разыграўся цікаўны інцыдэнт у Нямеччыне. Нямецкая рэспубліка, як ведама істнуе толькі на паперы. Але канцлер Лютэр пастанавіў зьніштожыць нават гэту фікцыю. Ен падсунуў прэзыдэнту рэспублікі Гіндэнбургу для падпісаньня дэкрэт аб увядзеньні ранейшага імпэратарскага сьцяга. Прэзыдэнт падпісаў і закон атрымаў сілу. Гэта ўзбурыла сац.-дэмакратаў і комуністаў. У Рэйхстазе сац.-дэмакраты запрапанавалі выразіць вотум недаверыя канцлеру Лютэру. Іх падтрымалі комуністы і дэмакраты сабраўшыя разам 176 галасоў проці 146. Але прэзыдэнт вызначыў замест Лютэра бышага міністра справядлівасьці Маркса і пакінуў стары кабінэт у ранейшым складзе. Гэткім чынам і сацыялісты з дэмакратамі і нацыяналістамі здаволены, што правалілі Лютэра і імпэратарскі сьцяг застаўся заместа рэспубліканскага.

З іншых эўрапэйскіх падзеяў трэба адзначыць узнаўленьне вайны ў Мароко. Мірныя перагаворы прадстаўнікоў Абд-эль-Крыма з прадстаўнікамі Францыі і Гішпаніі не далі ніякіх рэзультатаў. Адным з галоўных дамаганьняў Францыі і Гішпаніі было тое, каб Абд-эль-Крым пакінуў Мароко і ня меў права жыць ані ў водным з афрыканскіх або азіяцкіх краёў. Апрача таго быў яшчэ рад іншых дамаганьняў, якіх рыфэны ня прынялі, і ў рэзультаце ў Мароко вайна ізноў пачалася.

Ня менш цікаўныя падзеі і ў нас. Пасьля перамогі маршалка Пілсудскага над рэакцыйным урадам Вітаса абхапіла разачараваньне дзьве зусім процілежныя партыі—крайніх эндэкаў і... сацыялістаў. І тыя і гэтыя разачараваліся тым, што маршалак не аб'явіў сябе дыктатарам і не разагнаў сойма і сэната. Што датычыцца эндэкаў, дык зразумела, што яны хочуць скампрамітаваць маршалка Пілсудскага ўнутры і заграніцай, прадставіўшы яго як дробнага чэсталюбца. Але зусім незразумела нездаваленьне сацыялістаў, якія дагэтуль даражылі канстытуцыяй, якая забясьпечывала правы ўсіх грамадзян. Калі ня ўсе аднолькава карысталіся правамі нашай канстытуцыі, дык у гэтым вінаваты толькі Сойм і ранейшыя ўрады. Гэтае ігнараваньне ранейшымі ўрадамі канстытуцыі і прымусіла маршалка Пілсудскага выступіць на чале арміі і дэмакратыі проці рэакцыйнага ўраду. Але ён як змагальнік за праўду і свабоду не захацеў увайсьці на шлях неабмежованай дыктатуры, якая магла-б адпіхнуць ад яго заправўдную дэмакратыю і пазбавіць яго маральна—законнага грунту. Дзеля гэтага расправіўшыся з несумленнымі выканаўцамі канстытуцыі, ён скіраваў дальнейшы ход дзяржаўнага жыцьця ў строга канстытуцыйным напрамку. Пасьля адрачэньня прэзыдэнта Вайцэхоўскага, яго абавязкі перайшлі, згодна з § 40 Канстытуцыі, да старшыні сойму. Старшыня сойму — Ратай разам з маршалкам Пілсудскім вызначыў новы кабінэт Бартэля, у якім маршалак абмяжаваўся пакуль становішчам ваеннага міністра. Гэта не азначае яшчэ, каб маршалак Пілсудскі ня меў уплыву на ўвесь кабінэт і на ўсё дзяржаўнае жыцьцё. Нацыянальны сход, г. зн. злучанае паседжаньне Сойма і Сената ў хуткім часе выбярэць новага прэзыдэнта Рэспублікі. Бязумоўна новым прэзыдэнтам выбяруць Пілсудскага. Пасьля гэтага толькі маршалак Пілсудскі папрабуе распусьціць законным спосабам сойм і сэнат. Манархісты і сацыялісты проста дамагаюцца разгона сойма кшталтам таго, як гэта зрабіў Ленін у 1917 годзе у Петраградзе з учрадзіцельным сабраньнем. На аснове нашай Канстытуцыі сойм можа быць распушчаны толькі прэзыдэнтам рэспублікі, але дзеля гэтага патрэба згоды тры пятых сэната, пры гэтым адначасна распускаецца і сам сэнат. Гэты пункт—гэсамае слабое месца нашай канстытуцыі. Усе заходнія канстытуцыі даюць права начальнікам дзяржаў распускаць палаты па ўласнай ініцыятыве, або згодна з прапазыцыяй кабінэта. Гэтак дзеецца ў прымернай канстытуцыйнай Англіі, у цяперашняй Нямеччыне, Чэха-Славакіі і інш. Толькі ўва Францыі, таксама як і ў нас, прэзыдэнт рэспублікі ня мае права распускаць палаты бяз згоды сэнату. Калі-б толькі у нашым сэнаце не знайшлося тры пятых галасоў на карысьць роспуска сойма, дык застаецца яшчэ адзін шлях: зьмена гэтага параграфа Канстытуцыі на карысьць аддачы права прэзыдэнту самому распускаць законадаўчыя палаты, як гэта робіцца ў Англіі або Нямеччыне. Але дзеля зьмены Канстытуцыі патрэба дзьве трэціх галасоў сойма. Цяпер зьяўляецца пытаньне: што зробіць маршалак Пілсудскі, калі ані ў сэнаце не атрымае патрэбных тры пятых галасоў дзеля роспуска Сойма, ані ў сойме двух трэціх для зьмены Канстытуцыі? Тады магчыма, што будзе прымушаны зрабіць доўгія канікулы да новых выбараў, якія адбудуцца ў будучым годзе.

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## У ПОЛЬШЧЫ.

Пасьля назначэньня новага ўраду, на чале з праф. Бартэлем, ува ўсей Польчы наступіла ўспакаеньне. Вайсковыя часьці вярнуліся да сваіх гарнізонаў. Чугуначны рух адбываецца нармальна. Толькі ў Паэнані жыцьцё не увайшло яшчэ ў нармальную калею. Як ведама, пасьля перавароту, частка паслоў правіцы і рэшта вітасоўскіх міністраў выехалі ў Пазнань, дзе пачалі агітаваць проці новага ўраду. Гэтыя паслы прыслалі заступніку Прэзыдэнта Ратаю ліст, у якім дамагаліся скліканьня Нацыянальнага Сабраньня не ў Варшаве, а ў іншым мейсцы. Але па апошнім весткам, і ў Пазнані ўжо наступае ўспакаеньне. Частка паслоў вярнулася ў Варшаву. Ня гледзячы на апазыцыю правіцы, Нацыянальнае Сабраньне вызначана ў Варшаве на 31 траўня. Левыя партыі выстаўляюць кандыдатуру на Прэзыдэнта Маршалка Пілсудскага. Згадзіліся падтрымаць гэтую кандыдатуру і нацыянальныя меншасьці, апрача Беларускага Пас. Клюбу, які яшчэ „ня вырашыў“ свайго становішча.

Пасьля выбару Прэзыдэнта прадбачыцца роспуск Сойма і Сэната. Па гэтаму пытаньню вядуцца перагаворы паміж партыямі.

## ЗАГРАНІЦАЙ.

**АНГЛІЯ.** Агульныя страты ад апошняй гэнэральнай забастоўкі дасягаюць 30 мільёнаў фунтаў штэрлінгаў. Забастоўка ў вугальных копях цягнецца далей. Урад хацеў паменшыць заробкі вуглякопаў на 10 працэнтаў, але конфэрэнцыя дэлегатаў ад вуглякопаў не згадзілася на гэта і пастанавіла спыніць перагаворы з урадам.

**ФРАНЦЫЯ.** Вядуцца перагаворы паміж міністрамі і францускім Пэрэ і англійскім Чэмбэрленам аб урэгуляваньні францускага доўга Англіі. У зьвязку з гэтымі перагаворамі, курс франка, які ў апошні час катастрафічна падаў, пачаў памалу папраўляцца

**НЯМЕЧЧЫНА.** Новы кабінэт Маркса атрымаў у парлямэнце значную большасьць галасоў. За новы ўрад галасавалі ўрадовыя партыі і сацыялісты, а проці—гітлераўцы і комуністы. Нацыяналісты ўстрымаліся ад галасаваньня.

20 траўня ў Бэрліне пачаліся польска-нямецкія гандлёвыя перагаворы.

**Бэльгія.** Тутка стварыўся новы коаліцыйны кабінэт, на чале з прэм'ерам Жаспарам. У склад кабінэту ўваходзяць: 4 каталікі, 4 сацыялісты і 1 лібэрал.

**ШВЭЙЦАРЫЯ.** Камісія, якой было даручана апрацаваньне праэкту новага статуту Лігі Народаў, прыняла праэкт, паводле якога часовыя сябры Рады Лігі выбіраюцца на 3 гады. Сход Лігі двумя трэцямі галасоў можа пастанавіць аб перавыбарах. Лічба часовых сябраў павялічана да 9. Пытаньне аб сталых сябрах не разглядалася. Праэкт гэты будзе пададзены на разгляд Рады Лігі, якая сабярэцца 7 чэрвеня.

— 18 траўня ў Жэнэве пачалася падгатаваўчая конфэрэнцыя па разбраеньню, у якой прымаюць вучасьце дэлегаты 20 дзяржаваў.

**КІТАЙ.** Нарэшце дайшло тут да паразуменьня між гэн. Ву-Пэй-Фу і Чанг-Тсо-Лінам па пытаньню аб стварэньні агульна-кітайскага ўраду. У рэзультаце гэтага створаны новы ўрад, на чале з прэм'ерам д-рам Іенам. Новы ўрад зьяўляецца рэзка антыбальшавіцкім.

**МАРОКО.** Наступленьне францускіх і гішпанскіх войск разьвіваецца памысна. Франка-гішпанскія войскі пасунуліся па ўсяму фронту на 10 кілёмэтраў уперад і занялі Джэбэль-Бузіну і Бэль-Бурубі,—галоўныя апорныя пункты рыфэнаў. Па чуткам, паўстанцы самі арыштавалі Абд-эль-Крыма, каб гэтым прысьпешыць канец вайны.

# Агляд прэсы.

Віленскае „Słowo“ зьмяшчае вельмі цікаўны артыкул п. з. „Зварот у беларускай палітыцы“, у якім піша:

> „Ужо ад нейкага часу адносіны віленскіх беларусаў да Савецкай Беларусі рашуча зьмяніліся. Замест ранейшых захопленьняў Савецкай Беларусьсю, навязаных беларускаму грамадзянству элемэнтамі нелёяльнымі, якія ў апошні час скрысталізаваліся ў „Беларускую Сялянска-Работніцкую „Грамаду“, цяпер бачым адносіны крытычныя і цьвярозыя, якія не адкідаюць некаторых плюсаў Савецкай Беларусі, але ясна разумеюць перавагу мінусаў, якія безупынна і выразна друкуюцца ў газэтах.
>
> Гэтыя заявы надта нэрвуюць „грамадаўцаў“, якія дзеля гэтага прымушаны значна рэдукаваць свае гімны ў чэсьць саветаў, каб іхнія брахлівыя пісаньні кшталтам „уражаньняў з падарожы“, якімі дагэтуль безкарна туманілі здэзар'ентаванае беларускае грамадзянства, не спатыкаючыся амаль што з ніякім адпорам, — выглядалі хаця крыху праўдападобнымі“.

Далей, кажучы аб дэмагогіі, якую разьвярнула „Сял.-Раб. Грамада“ на шпальтах сваей прэсы, аб развале беларускага Пасольскага Клюба, аўтар пераходзіць да прычынаў, якія выклікалі зьмену беларускае орыентацыі.

> „Вялікі ўплыў і заслугі ў тым што беларусы адвярнуліся ад Усходу мае орган умяркаваных беларусаў п. н. „Беларускае Слова“, а таксама і яго папярэднік „Грамадзкі Голас“. Гэтыя дзьве часопісі былі тым молатам, які разварушыў муры палахлівага маўчаньня, якое не давала магчымасьці свабодна высказацца

**Р. Акульнік.**

# Пастрашка.

*(З бальшавіцкага журналу „Перавал“).*

Суд адбываецца пасьля абеду. Разглядаюцца справы аб спагоне з мужыкоў продналога. Вокны адчынены. На вуліцы цішыня. У памешканьні духота.

Сон разьбірае. Усе лаўкі ў судзебнай салі заняты мужыкамі з розных вёсак і асадаў абшырнай Сарочынскай воласьці.

Тут і раўнадушна-спакойныя твары: — „што з нас возьмеш?“ і сьцягнутыя насупленыя дакукай бровi: „адарвалі ад дзела, за пятнаццаць вярстоў прывалаклі, а дзеля чаго?“

Заседацелі таксама ня ведаюць на што іх за сталом пасадзілі. Сівы стары Кісялёў нізка апусьціў галаву. Бліщчыць лысінай патыліцы. А Дзьмітры Гардзюкін зусім заснуў.

Дзьмітры — здаровы, плячысты хлапец. Вочы ў яго маленькія, а брух вялікі. Яго празываюць барцом, бо ён колькі разоў выступаў ў балаганах удоўжкі з „чэмпіонамі“. Толькі яго заўсёды перамагалі. „Брухам не здужаеш,—казалі аб ім мужыкі. „Тут патрэбна тэхніка. Пузатага ўсякі шыбзьдзік на лапаткі паложыць, калі яго мускулы з з тэхнікай абзнаёмлены“.

За сталом харахорацца прадседацель Кандаўраў і пісар Цімчанка. Разьбіраецца справа селяніна Верашчагіна. Судзьдзя вызываець абвінавачанага:

— Верашчагін!

Ніхто не адзываецца. У залі ціха. У цішыні чутно бзыканьне мухі.

— Верашчагін!

— Я!

Пасярод салі ўскаківае прачхнуўшыся стары, гадоў пад—шэсьцьдзесят, брудны, ўзлахмачаны, барада — кудламі.

— Ідзі да стала!

— Што-ж, можна...

— Як завуць?

— Чаго?

— Як завуць, пытаюся?

— Мяне? Быў Янка.

— Па бацьку?

— Гэта зваць мяне? Пішы Трахімыч.

— З якой вёскі?

— А я з Нова-Троіцкага... Недалёка. Семнаццаць вярстоў... Адсюль відаць... вось як за бугар пераваліш, дык ў лагчыне і будзе Нова-Троіцкае... З вакна відаць, можа пабачыш?..

— Колькі табе гадоў, дзедка?

— Мне—та? Ня ведаю.

— Як—так? Ну—ў якім годзе прызываўся?

— А я мілай—не служыў.

— Колькі-ж запісаць табе?

— А мне вось колькі пішы: калі ў нас была першая халера... Стары запнуўся, пачаў нешта ўспамінаць...

— Пры чым тут халера? зьдзівіўся прадседацель.

— А вось калі гэтта першая халера была, дык я на другой жонцы жанаты быў.

— Ну добра, добра...

Кусае вусы прадседацель, стрымоўвае сьмех.

— Кажы-ж больш-меньш колькі табе будзе Гадоў семдзесят будзе?

— Не... ма быць ня будзе...

— Ну, добра, запішу шэсьцьдзесят пяць.

— Пішы, чаго таргавацца.

— Пяперка—маемасьць якая ў цябе, дзедка?

—Чаго?

— Ну маемасьць... Што маеш?

— Ды ў мяне нічога няма... Я ўвесь тутка.

І паказвае на лапці, а тыя зусім стаптаныя. Лыка тырчыць. Парткі—лата на лаце.

— Нічога, значыцца, ня маеш?

— Ня маю...

Судзьзя просіць пісара паглядзець у сьпісе маемасьці. Па сьпісу ў старого значыцца карова.

— Дзедку, а карова ў цябе ёсьць?

— Чаго?

— Карова?

— Карова-а? Карова ёсьць. Як жа без каровы? Карова ёсьць!

— А казаў: нічога няма?

# № 14 НАШ САТЫРЫКОН № 14

**Гумарыстычна — сатырычны дадатак да „Беларускага Слова“.**

## ХВОСЬЦІК.

(*Байка па Франку*).

Ня знаю як, на што й чаму,
Зьвяроў уладыка, леў магучы
Вялеў народу сваяму
На сход сабрацца ў лес драмучы.
— „Хто зьявіцца ка мне хутчэй,
Той будзе мне другіх мілей.
Яго па—царскі абдарую,
Апорных—у „паку“ пасаджу я!“
Такі загад леў выдаў строгі.
Ісьці далёка, без дарогі,
Праз хмызы розныя, балоты,
Бадай ніхто ня меў ахвоты.
Аднак, каб льва не шмат злаваць,
У пушчу ўраз усе сьпяшаць.
Натоўп зьвяроў. Шум, гоман, топат,
Адзін ўсяк тут мае клопат:
Каб ззаду іншых не застацца,
Хутчэй ўперад ўсіх прабрацца.
Найперш прайшлі—ўсе багацеі;
За імі тыя, што спрытней;
Нахалы розныя, гарланы—
Праз натоўп пруцца, бы тараны.
Вярблюды-ж, коні і каровы,
Бараны, оўцы, вол здаровы—
— Быдлё ў пашане між людзей—
— Скрамненька ззаду ўсіх ідзе.
Аж раптам—праз сабраньне ўсё —
Зьнекуль прэцца парасё.
Між ног шмыгае, ўсяк хлапоча,
Уперад усіх пралезьці хоча.
Ды дзе там! Між такога руху,
Яго зацерлі б быццам муху.
І пэўне-б ззаду засталося
Ды з цёткай неяк спаткалося.
— „Ах, цёценька! ратуй з бяды!
Прабрацца вось хачу туды
Да льва хутчэй. Ды не ўдаецца.
Багаты і сільны ўперад прэцца,
Слабым і ходу не даюць...
Ах, ці ня можна як нєбудзь
Зрабіць што—неяк, пастарацца,
Каб я ўперад мог прабрацца?“
— А! чаду нашае пароды
Памоч гатова я заўсёды!
Трымайся толькі ля мяне.
Дарогі хто ня дасьць сьвіньне?
К таму-ж: міністраў ўсіх знаю,
Нат сваяка сярод іх маю.
Мо чуў: там ёсьць кабан—барон?..
Ды вось—якраз ідзе і ён!
Чакай! пaможа ён ўміг
Нам абагнаць зьвяроў усіх!
— „Як ваша міласьць пажывае?“
Сьвіньня к кабану падлетае.
„Я маю просьбачку да вас:
Хачу к цару папасьць на час,
Ды вось—ісьці аднэй нек нудна,
Навокал публіка—паскудна...
Таўкучка, сьціск, смурод і гам...
Мо дапаможаце вы нам.
Вось гэтых абагнаць скатоў?“
„Мадам! заўсёды я гатоў
Служыць для вас усей душой!
Спакойны будзьце і за мной
Ідзіце сьмела. Я ўраз
Да льва прасьцюсенька дастаўлю вас“!
І вось кабан ў натоўп ідзе,
Клыкамі порэ, б'е, грызе.
Спаткацца з ім—благое дзела:
Клыком ткне — не камень цела!
Хай бы хто не даў дарогу—
Ураз пусьціў бы й душу Богу...
Усім тут цесна, а кабан —
Ідзе свабодна, бы той пан!
А разам з ім—яго радня:
Парасёнак і сьвіньня...
Тут мо' і дзіўна каму была,
Як ён, малы і з слабай сілай
А вось ўперад усіх прабраўся?
Ды проста: хвосьціка трымаўся
Ён сваёй цётанькі—сьвіньні...

---

Ня хочам, Божа барані,
Нікога тутка мы абразіць.
Ды вось—зашмат ўжо пралазіць
У гару, і сілу забіраюць
На тое данных што ня маюць.
І сяньня, так як даўней была
У „пратэкцыі“ кар'еры сіла.
Бач: чалавек ні-то ні-сё,
Мо' меней варт чым парасё,
Вума няма, нікчэмны ўзрост,
Маральна, дык зусім прахвост...
Здаецца й месца толькі ззаду!
А вось: дае сабе ён раду
І хутка ў жыцці „ўсплывае!“
Чаму? Ды хвосьцік чыйсьці памагае!

*Б. Друцкі.*

## ЗАДАНЬНЕ.

(*З ўсходніх сказаў з Велічко*).

Шэйх, патомак Магамэта
Мужа славу меў сьвятога.
І яго малітвы сілай,
Шмат хто ласку здабыў Бога.
Вось прыйшлі за тэй малітвай
Да яго, ў старую Мэкку
Ганчар нейкі з земляробам,
Разам жылі што ад веку.
Земляроб да Шэйха кажа:
— „Дождж мне вымалі у неба!
Бо ў засуху — згінуць нівы,
Застануся я бяз хлеба...“
А ганчар злажыў аж рукі:
„У дождж ня высушу пасуду.
Памаліся, каб была суха,
Жабраком іначай буду“.
Старац выслухаўшы просьбы,
Доўга моўчкі сумаваў.
— Адыйдзіце, братцы з мірам,
Ім нарэшце адказаў.
Кожны з вас іншага хоча.
Хоць моц Бога без канца,
Ды прыйшлося-б вашай просьбай—
Ставіць у тупік Тварца.

*В. Д.*

---

новіча „П. Міністар“, акая была адыграна надта добра і вельмі падабалася прысутным. Асабліва добра правёў ролю Міністра—Х. Шыбут, а таксама Сьвятляка—Ян а Корбут. Малады, з бязумоўна прыроднай камічнай жылкай, А, Адарыч граў ролю Кукіша. Ролю Скакуна добра правёў Дзямідчык. Маладая і пекная С. Шалоха дала праўдзівы тып добрай, чыстай вясковай дзяўчыны, шчыра пакахаўшай свайго Міколку. Таксама добра правяла ролю Марты—О. Адарыч. Народу была поўная саля (б. казённы „магазін“, высілкамі аматараў пераробленны на тэатр).

На Юрыя адбыўся ў нас мітынг, на якім старшыня Ч. Бел. Рады А. Паўлюкевіч сказаў прамову на тэму аб зямельным пытаньні і сучасным палітычным палажэньні Дзяржавы. Дзякуючы дождж у прысутных было ня многа, але ўсе яны ўважна праслухалі шчырую праўду аб цяжкім для беларуса сёняшнім дні і прызыў змагацца за лепшую долю. Пасьля мітынгу адбылася пашыранае паседжаньне Сэкрэтарыяту Час. Бел. Рады, з вучасьцем прадстаўнікоў усіх вёсак. Абгаварываліся справы беларускага зьезду, арганізацыі сялянства і розныя балачкі сялянскага жыцьця.

Увечары адбыўся спэктакль. Ставілі п'есы: „Янка Канцавы“ К. Сваяка і „Прымакі“ Янкі Ку алы. Абедзьве п'есы прайшлі з вялікім пасьпехам. Зноў захопліваў сваёй шчырасьцю Х. Шыбут, сьмяшыў А. Адарыч, пекна гралі дзяўчаткі: Даміцэлю—М. Чапля і Кацярынку—З. Шалоха. Вельмі добры быў старадаўні вураднік—Я. Ганчарык. Добра гралі: жыда—Я. Дзямільчык, Міхасіху—М. Чапля, маці — С. Чапля, Карусю—З. Шалоха, Язэпку—Г. Шыбут, Франка—Косьцюкевіч. Пекны драматычны малюнак Разалькі дала О. Аларыч. Моцнае ўражаньне на прысутных зрабіла пекнае пяяньне хору ў часе хаўтураў Янкі. Хор складаўся выключна з маладых вясковых хлапцоў і дзяўчат: Я. Шыбут, Я. Касьцюкевіч, Я. Кірык, Н. Шыбут, Я. Ганчарык, Н. Кірык, Н. Шыбут і інш. Некалькі пекных вершаў, прачытаных Х. Шыбутам і сьпевы вучня Бел. Наваградзк. гімназіі закончылі першую частку вячорку. Прысутны на спэктаклю А. Паўлюкевіч ад імя Рады ў кароткай прамове дзякаваў артыстаў за працу на карысьць роднай культуры. На гэтую прамову, ад імя артыстаў, адказаў Х. Шыбут. Пасьля спэктаклю адбыліся скокі.

Прыемна адзначыць, што гэтым беларускім спэктаклям спачувае месцовы абывацэль п. Лазінскі, які заўсёды бывае на вечорках, а таксама і п. Еленскі, — прэзэс пажарных каманда́ў і Kółek rolniczych. Варта зазначыць, што ў той час, як на спэктаклях Віленскага аб'езднога белар. тэатру, з вучасьцем самога драматурга Ф. Аляхновіча, у Баранавічах і Нясьвіжы, польскае грамадзянства, апрача літэральна 2-х асобаў, дэманстрацыйна не зьявілася, на вёсцы польскае грамадзянства, відаць, больш спачувае беларускай культурнай працы.

*Б. Л.*

## Тутэйшая хроніка.

**Новы ваявода**. Па распараджэньню новага ўраду, б. міністар унутраных справаў п. Рачкевіч ізноў атрымаў назначэньне на пасаду віленскага ваяводы.

**Прадукты даражэюць** За апошнія дні ў Вільні значна падвысіліся цэны на прадукты першай патрэбы, галоўным чынам на мяса і саланіну. Некаторыя прадукты падаражэлі больш як на 20 працэнтаў.

**Адмена распараджэньня**. Камісар Ураду ў Вільні адмяніў сваё распараджэньне ад 14 траўня г.г,, які забараняў вулічны рух у Вільні ўначы, паміж 11 і 5 гадзінамі.

**Рэзэрвістаў цягнуць да адказнасьці**. Як ведама, вайсковыя рэзэрвісты, пры кожнай перамене адрасу, павінны паведамляць аб гэтым адпаведную вайсковую ўладу. Цяпер выданы загад аб тым, каб усіх тых рэзэрвістаў, якія ня выконваюць гэтага распараджэньня, пацягнуць да судовай адказнасьці.

**У справе выезду у Канаду** Урадовае бюро па рэестрацыі безработных перасьцярагае эмігрантаў, якія хочуць выехаць у Канаду, каб яны не карысталіся ўслугамі г. зв. інфармацыйна калёнізацыйнага бюро ў Winnipegu, якое займаецца толькі тым, што зьбірае з даверчывых эмігрантаў па 1 даляру і нічога ня робіць.

**Расстрэл бандыта**. Па прыгавару Суда 20 траўня ў Вільні расстрэляны жыхар в. Любань, Лахвіцкай гм. — Кузьма Нарываньчук, які абвінавачываўся ў нападзе на цягнік пад ЛуніНцам.

**Курс на грошы**. 21 траўня за даляр Польскі Банк плаціў 11 зл, 10 гр.

**ГРАМАДЗЯНЕ!**

Хто можа ахвяруйце кніжкі хоць у якіх мовах на Бібліятэку ім. Фр. Скарыны ў в. Барадзенічах, Браслаўскага пав.

Кніжкі можна перадаваць праз рэдакцыю „Беларускага Слова“.

**Урад Бібліятэкі.**

Адказны Рэдактар Т. Вернікоўскі. Друк А. Дворжэца Завальная 32. Выдавец Ч. Бел. Рада